VERTIGO

issue 32 Feb 05
2.50 can 3.85

BILL WILLINGHAM
MARK BUCKINGHAM
STEVE LEIALOHA

SUGGESTED FOR MATURE READERS
vertigocomics.com

# FABLES™

.BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

ПАДАННІ
#32

ПЕРАКЛАД:
АРТУР БАРАДАЧОЎ
АФАРМЛЕННЕ:
СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ
COMICSBY.BY
VK.COM/COMICS_BY

ПАДАННІ СТВОРАНЫ **Б. УІЛІНГХЭМАМ**

# FABLES

ПЕРАКЛАД НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ: **АРТУР БАРАДАЧОЎ**

АФАРМЛЕННЕ: **СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ**

# 5




























**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ЗА ПАДТРЫМКУ COMICSBY.BY:**

**Сяргей Лісічонак**










НУ ДОСЫЦЬ ВАМ, НАРОД!

ВЫ **НЯ МОЖАЦЕ** ВОСЬ ТАК!

АЛЕ ВЫДАТНЫ ПРЫНЦ **НЯ ВЫКАНАЎ** СВАЕ АБЯЦАННІ, СПАДАР ПАЧВАРА!

НІВОДНАЕ З ІХ!

ДЗЕ **БЯСПЛАТНЫЯ ЧАРЫ ВОБРАЗУ І ТРАНСФАРМАЦЫІ**?!

АБУДЗІ МЯНЕ!

СТРЫМЛІВАЙ АБЯЦАННІ!

ЗАРАЗ УЖО НЕ ТАКІ ВЫДАТНЫ!

ФС прэч!

МЫ ПРАГАЛАСАВАЛІ, А ТЫ ЗНАЙДЗІ НАМ ЗАКЛЯЦЦІ!

ПРЫНЦУ ТРЭБА ДАДОМУ!!!

NOD'S BOOKS

LEWIS

**ДОБРА**! Я ЗГОДНЫ З ВАМІ, У ВАС **ЁСЦЬ ПРАВА** СКАРДЗІЦЦА!

АЛЕ Ж **НЕ** НА ВУЛІЦАХ, ДЗЕ **ЗВЫЧАЙНЫЯ** МОГУЦЬ УБАЧЫЦЬ ВАС!

# Змрочная, шкодная зіма

У якую пройдзе пратэст, адбудуцца магічныя падзеі, хтосьці памрэ, будзе расследаванне, а на Ферму прыйдзе нечаканы госць.

Written & Created by Bill Willingham | Pencilled by Mark Buckingham | Inked by Steve Leialoha
Lettered by Todd Klein | Colored by Daniel Vozzo | Cover Art by James Jean
Assistant Editor: Mariah Huehner | Editor: Shelly Bond






















Слухайце! Я **асабіста** гарантую, што вы трапіце да мэра праз дзень ці два – – **паасобку** ці **групай**.
Але зараз вы **парушаеце** законы Фэйблтаўна.
KEEP YOUR PROMISES!
OUT!
WE deliver the VOTES,
the SPELLS!




Я **загадваю** вам разысціся!
Разыходзьцеся **па кватэрах**, інакш я буду вымушаны **арыштаваць** вас!




А цяпер разыходзьцеся.
Вось гэта іншая справа.
Дзякуй вам.




Вам **лепш не падводзіць** нас, шэрыф.
Так, я ўжо зразумеў.
NOU'S BOOKS




Кепскі пачатак **дня**, так?
Ты чуў, як гэты казачны **назваў** мяне, Джон?
Ён назваў мяне **«шэрыф»**!






**Мяне!**
Яны пачынаюць **успрымаць** мяне ў якасці новага шэрыфа!
Хіба ня **файна**?




З хваляваннямі ўсё ўладжана, шэрыф?
**У гэты раз**, так, Грымбл.
У гэты раз.




Добрай раніцы, фраў Тотэнкіндэр, зноў пакідаеце офіс?
Так, праводзіце мяне?
У мяне ёсць добрыя навіны для вас.




Мы скончылі аналітычную экспертызу вашых чараў.
І вы можаце **змяніць** іх?
Пры пэўных умовах, **так**.




Хутка вы зможаце **па жаданні** ператварацца туды і назад, у пачвару і ў чалавека, нягледзячы на капрызы і эксцэнтрычнасць вашай жонкі.
**Цудоўна!**




ГЭТА ВЕЛЬМІ СПАТРЭБІЦЦА МНЕ НА ПРАЦЫ.
ЯК І Ў ВЫПАДКУ З БОЗЛІ, НАМ ПАТРЭБНЫ ЖОРСТКІ ХЛОПЕЦ НА ПАСАДЗЕ ШЭРЫФА... ТОЙ, ХТО ЗДОЛЬНЫ ВЫЗВАЛІЦЬ МОНСТРА...
КАЛІ СІТУАЦЫЯ АБВАСТРАЕЦЦА.
А ЗАРАЗ, ПАКУЛЬ МЫ САМ-НАСАМ, ДАЗВОЛЬЦЕ ВАС СПЫТАЦЬ ПА ТЭМЕ, Я ЖАДАЮ, КАБ ГЭТА ЗАСТАЛАСЯ СТРОГА ПАМІЖ НАМІ.
ВОО, НЯЎЖО САКРЭТЫ?
Я ЗАІНТРЫГАВАНАЯ.
ШТО ТРЭБА ЗРАБІЦЬ, КАБ ВЫРАСЦІЦЬ ПАРУ ВОЧНЫХ ЯБЛЫКАЎ?


А БОЖУХНА, БОЖУХНА, БОЖУХНА.
Я НЕНАВІДЖУ ГЭТАЕ МЕСЦА І НЕНАВІДЖУ СВАЮ ПРАЦУ!
ЯК ЯНА ГЭТА РАБІЛА?







ЯК ЖА СНЕЖКА ЎМУДРАЛАСЯ ВЫРАШАЦЬ ПРАБЛЕМЫ ТАК ХУТКА, А СПРАВЫ ТРЫМАЦЬ У ТАКІМ ПАРАДКУ?
НУ-У, ПРЫГАЖУНЯ.
ЯНА БЫЛА ЧАСТКАЙ УЛАДЫ ЯШЧЭ ДА СТВАРЭННЯ ФЭЙБЛТАЎНА – РАНЕЙ ТУТ ПРАЦАВАЛІ ДЗЕСЯТКІ ЛЮДЗЕЙ.
У ЯЕ БЫЛІ СТАГОДДЗІ, КАБ НАВУЧЫЦЦА ЎСЯМУ ДАСКАНАЛА, ЯНА ПРАЙШЛА ШЛЯХ ДА САМАГА ВЕРХУ.


МНЕ ЗАРАЗ ЛЕПЕЙ ЗМОЎКНУЦЬ?
ПАЙДЗІ І ЗНАЙДЗІ СЛОЎНІК, І ПАШУКАЙ ТАМ СЛОВА «РЫТАРЫЧНАЕ ПЫТАННЕ».
ГЭТА ДВА СЛОВЫ.
ЛЯЦІ ЎЖО, МАЛПА!
ЛЯЧУ-ЛЯЧУ!






ТЫ НІКОЛІ НЕ ЎПАРАДКУЕШ СВАЮ ПРАЦУ, КАЛІ ШТОДЗЕНЬ ПРАЦЯГНЕШ ЗМАГАЦЦА З ГЭТАЙ ПРАКЛЯТАЙ **МАЛПАЙ**.
**ЗАБІЦЕ ЗЯПУ**, МІСТЭР МЭР. ЦІ ЯШЧЭ ЛЕПШ ЗВОЛЬНІЦЕ МЯНЕ ЗА ПАРУШЭННЕ СУБАРДЫНАЦЫІ.
БОЖУХНА, ДЫ, **МАЛЮ**, ЗРАБІ ЎЖО ГЭТА.


ДЗЯКУЙ, ШТО **ПРАВОДЗІЛІ**, ПАЧВАРА. ВЫ САПРАЎДНЫ ДЖЭНТЛЬМЭН.
ЗНОЎ ВЯРТАЕЦЕСЯ Ў **ПАДЗЯМЕЛЛІ**, МЭМ?


ШТО ВЫ ТАМ **РОБІЦЕ** ЎВЕСЬ ГЭТЫ ЧАС?


ШМАТ ЧАГО, МІСТЭР ПАЧВАРА.
ШМАТ ЧАГО.




ЯНА СТАРАЯ ДЗІЎНАЯ БАБКА, ХІБА НЯ ТАК?
ШЭРЫФ, ШТО ТЫ ДАВЕДАЎСЯ ПРА **ПАСТУШКА**?
НУ-У, Я ЎСЁ ЯШЧЭ ЗАЙМАЮСЯ РАССЛЕДАВАННЕМ.


У ЦЯБЕ БЫЛО НЕКАЛЬКІ МЕСЯЦАЎ, АДКАЖЫ МНЕ, ШТО ТЫ ВЕДАЕШ У ДАДЗЕНЫ МОМАНТ?
З УПЭЎНЕНАСЦЮ МАГУ СКАЗАЦЬ НАСТУПНАЕ: ПАСТУШОК СКРАЎ **ВЯДЗЬМАРСКІ ПЛАШЧ, ВОСТРЫ МЕЧ І ЦЕЛА ПІНОКІА**.


У **ПЕКЛА** ПРАЦУ. МНЕ ТРЭБА РАЗМЯЦЦА. **ХАДЗЕМ** СА МНОЙ.
Я ПАДАЗРАЮ НАСТУПНАЕ: ЁН ВЯРНУЎСЯ Ў РОДНЫЯ ЗЕМЛІ, КАБ ДАСТАВІЦЬ ПІНОКІА ДАДЖЭПЕТА Ў АБМЕН НА ЧЫРВОНЫ КАПЯЛЮШЫК, У ГЭТЫ РАЗ САПРАЎДНЫ.


ГЭТЫ ВЯДЗЬМАРСКІ ПЛАШЧ МОЖА ВЯРНУЦЬ ЯГО НАЗАД У **РОДНЫЯ ЗЕМЛІ**, МІНУЮЧЫ БРАМУ?
МЫ МЯРКУЕМ, ШТО ТАК. ГЭТА ВЕЛЬМІ МАГУТНАЯ ПРЫЛАДА. ПРАЗ СТАГОДДЗІ, МЫ НАВАТ **ТАК І НЕ ДАВЕДАЛІСЯ**, НА ШТО ЯНА ЗДОЛЬНАЯ.


ХІБА Ў НАС НЯМА НЕЙКАЙ **ПРАГРАМЫ**, АДПАВЕДНА ЯКОЙ НЕКАТОРЫМ КАЗАЧНЫМ ПРЫЎЛАШЧВАЮЦЦА РОЗНЫЯ МАГІЧНЫЯ РЭЧЫ ДЛЯ **ТРЭНІРОЎКІ**?
КАБ МЫ НА САМОЙ СПРАВЕ СТАЛІ СПЕЦЫЯЛІСТАМІ Ў **ВЫКАРЫСТАННІ** ГЭТАГА **БАРАХЛА**, ЯКОЕ ПАВЫВОЗІЛІ З РОДНЫХ ЗЕМЛЯЎ?









ХІБА НЕ ЧЫТАЎ Я НЕШТА ПАДОБНАЕ СЯРОД УСЯГО ЛАЙНА, ШТО Я РАЗГРАБАЎ СЁННЯ?
ТАК, СЭР. ГЭТА НАЗЫВАЕЦЦА **ПРАГРАМА ПА АЗНАЯМЛЕННІ З АРТЭФАКТАМІ**. МЯРКУЮ, Я БАЧЫЎ ФАЙЛ ДЗЕСЬЦІ НА ВАШЫМ СТАЛЕ НА МІНУЛЫМ ТЫДНІ.


ВЫДАТНА. ДЫК ДАВАЙ ДАВЕДАЕМСЯ, КАМУ БЫЎ ПРЫЎЛАШЧАНЫ ВЯДЗЬМАРСКІ ПЛАШЧ І ВЫСВЕТЛІМ, **НА ШТО** ЁН ЗДОЛЬНЫ.
НЕ, ПАЧАКАЙ. НЕ АДКАЗВАЙ.


ГЭТА БЫЎ **ПАСТУШОК**?
ТАК, СЭР. ЁН ПАСПЯХОВА ВЫКАРЫСТОЎВАЎ ЯГО, УЦЯКАЮЧЫ З РОДНЫХ ЗЕМЛЯЎ, ТАМУ БЫЛО ЛАГІЧНА ПРЫЎЛАШЧЫЦЬ ЯМУ ЯГО ДЛЯ ДАСКАНАЛАГА ВЫВУЧЭННЯ.


ВЫДАТНА, ПРОСТА **ВЫДАТНА**.
ЧЫМ ПАКУТАВАЦЬ АД ГЭТАЙ ДРЭННАЙ НАВІНЫ, Я ЛЕПШ РАСКАЖУ ВАМ ПРА **НЕШТА ІНШАЕ**.
ШТО **ЦЯПЕР**? ХВАЛЯВАННІ НА **ФЕРМЕ**? **КАНІБАЛІЗМ** У КАНДЫТАРСКАЙ?


У ДАДЗЕНЫ МОМАНТ МЫ ЗНАЙШЛІ ТРЫЦЦАЦЬ ШЭСЦЬ ПАМЯШКАННЯЎ СА СКАРБАМ Ў АПАРТАМЕНТАХ СІНЕБАРОДА.
БЕЗ НАМЁКУ НА ТОЕ, ШТО МЫ ЗНАЙШЛІ ІХ УСЕ. **ЦУДОЎНА**, ХІБА НЯ ТАК?






ДЫК У ЧЫМ ПРАБЛЕМА?
АПОШНЯЯ ІНВЕРТАРЫЗАЦЫЯ ПАКАЗВАЕ ТОЛЬКІ ТРЫЦЦАЦЬ ПЯЦЬ ПАКОЯЎ, ПОЎНЫХ ЗДАБЫЧАЙ.


ХТОСЬЦІ **АБАКРАЎ** МОЙ ПАКОЙ СА СКАРБАМ?
НУ, ПАКОЙ УСЁ ЯШЧЭ ТАМ, АЛЕ...
ГЭЭЭ... АДЗІН З **НАШЫХ** ПАКОЯЎ СА СКАРБАМ?


НЕ СПРАБУЙ ЗДАВАЦЦА **ТРАПНЫМ**. КОЛЬКІ СКРАЛІ І **ДЗЕ ЁН**?
ГЭТА МОЖА БЫЦЬ ПРОСТА ПАМЫЛКА ПРЫ ПАДЛІКУ, СЭР. МЫ ПЕРАСОЎВАЛІ ЗДАБЫЧУ ЎВЕСЬ ЧАС ПЕРАД ЛЕТАШНЯЙ БІТВАЙ.


КОЛЬКІ?
У ЗАЛЕЖНАСЦІ АД РЫНАЧНЫХ УМОВАЎ І КУРСУ ВАЛЮТ...


**КОЛЬКІ?**
ПАМІЖ ДЗВЮМА ЦЭЛЫМІ І ЧАТЫРМА ДЗЕСЯТЫМІ І ШАСЦЮ **МІЛЬЯРДАМІ**.




МІЛЬЯРДАМІ? З ДЗЕВЯЦЦЮ НУЛЯМІ?
СІНЕБАРОД БЫЎ ВЕЛЬМІ БАГАТЫМ, СЭР.
Я ПАДАЗРАЮ ДЖЭКА, ЁН ПАКІНУЎ ГОРАД УВОСЕНЬ МІНУЛАГА ГОДА, І...


ТАКСАМА ЗРАБІЛІ БОЗЛІ, СНЕЖКА, ПАСТУШОК І З ТУЗІН АСТАТНІХ.
КАЗАЧНЫЯ, ЗДАЕЦЦА, РАЗБЯГАЮЦЦА НАПРАВА І НАЛЕВА.


ГЭТА ТАК, АЛЕ БОЗЛІ РАІЎ МНЕ ЗАЎСЁДЫ ПАДАЗРАВАЦЬ ДЖЭКА ПЕРШАПАЧАТКОВА.


Праходзяць дні, робіцца ўсё халадней і халадней.
ХТО ГЭТА? ХТО ТУТ?


Я ВЕДАЮ, ТУТ ХТОСЬЦІ ЁСЦЬ!
ТЫ МЯНЕ НЕ АШУКАЕШ, СЭР!
ПРАКЛЯТЫЯ ДЗЕЦІ СА СВАІМІ РОЗЫГРЫШАМІ І ПОДЛАСЦЯМІ!






ШТО?
ШТО ТЫ...?
ДОСЫЦЬ!


ДАПАМАЖЫЦЕ! Я...
АКККХХХ!
КАЛІ ЛАСКА, СПЫНІСЯ...


КАЛІ ЛАСКА...
НЕ ЗАБІВАЙ...








НАМ ТРЭБА ЎЗЯЦЬ АДЗІН З ГРУЗАВІКОЎ, ПАЕХАЦЬ У ГОРАД І **ПАТРАБАВАЦЬ** НАШЫЯ ТРАНСФАРМАЦЫІ АД ГЭТАГА НЕРАЗВАЖ-ЛІВАГА ВЫРАДКА!


ВАМ НЯ ТРЭБА ТАК КАЗАЦЬ ПРА **МЭРА,** ЁН ХУТКА ЎСЁ НАЛАДЗІЦЬ.
ХРАБРЫЯ ПРЫНЦЫ **ЗАЎСЁДЫ** ПРЫХОДЗЯЦЬ У АПОШНЮЮ ХВІЛІНУ.
ШТО Ж **ВЫМУШАЕ** ЦЯБЕ **ВЕРЫЦЬ** ЯМУ?


ГУЎ, ГУЎ, ГА, ГА! ГУЎ, ГУЎ, ГА, ГА!
СКАЖЫ «**МАЦІ**», СКАЖЫ «**ТАТА**»!
СКАЖЫ «**БЛЯХА-МУХА**», СКАЖЫ «**ПРАКЛЁН**»!


**ДОСЫЦЬ.** НЕ ВУЧЫ ДЗЯЦЕЙ **ЛАЯНЦЫ.**


ПРА **ГЭТА** НАПІСАНА Ў КАЗКАХ.
РУЖА, МНЕ **ЎБЛЫТАЦЦА?**
НЕ, ГЭТА ПРОСТА БЯСКРЫЎДНЫЯ **ВЫСВЕТЛЯННІ** АДНОСІНАЎ.


ХАЙ ВЫПУСЦЯЦЬ **ПАРУ.**


ХІБА НЯ ДОЎГА МАЛЫШЫ НА **МАРОЗЕ,** СНЕЖКА?


ВО, ПРЫВІТАННЕ, РУЖА.
ЗДАЕЦЦА, ЯНЫ ЗУСІМ НЯ СУПРАЦЬ ХОЛАДУ.
НАСАМРЭЧ ІХ НЯ ТРЭБА ТАК **ЦЁПЛА** ЗАХІНАЦЬ, АЛЕ ЯК БЫ Я ВЫГЛЯДА-ЛА, КАЛІ Б **НЕ РАБІЛА** ГЭТАГА?
ЧЫМ ЗАЙ-МАЕШСЯ?
РАЗБІРАЮ **СТАРЫЯ ПІСЬМЫ.**


ЧАМУ ТАКАЯ **ПАНУРАЯ?** ПРАПУСЦІЛА СВОЙ ШАНЦ НА ТАТАЛІЗАТАРЫ ПАДЛІКОВАЙ ПАЛАТЫ?
ЗІРНІ НА ГЭТА, ГЭТА АД **ФРАЎ ТОТЭНКІНДЭР.**









Даражэнькая Снежка,
Віншую цябе
з народзінамі вашых
выдатных, здаровых
малышоў. Але папярэ-
джваю вас: ня трэба
меркаваць, што
сямёра дзяцей - заўсёды
шчаслівая лічба.
Тотэнкіндэр.
СЯМЁРА?
АЛЕ Ў МЯНЕ **ШЭСЦЬ** ДЗЯЦЕЙ.
ЦІКАВА, ЯК ЯНА **ГЭТА** НАБЛЫТАЛА?


ТАМУ ШТО ЯНА ЗВАР'ЯЦЕЛАЯ СТА-РАЯ **КАРГА**. ЖЫЦЦЁ ВЕЛЬМІ **КАРОТКАЕ**, КАБ ХВАЛЯВАЦЦА З-ЗА ТАКОГА ЛАЙНА.
ХАДЗЕМ ВЫП'ЕМ **ГАРАЧУЮ КАКА-ВУ**, ПАКУЛЬ ТВАЕ КАРАПУЗЫ ГУЛЯЮЦЬ.


НЕ ДАЗВАЛЯЙ-ЦЕ ІМ **ДАЛЁ-КА** ЎЛЯТАЦЬ, ХЛОПЦЫ.
**ТОЛЬКІ** ДЗЕСЯЦЬ ХВІЛІН, А ПОТЫМ ЗАРАЗ ЖА ЦЯГНЕМ ІХ **ДАДОМУ**!
У ГЭТЫ РАЗ Я **СУР'ЁЗНА**!


ЮУЎП!
І НІЧОГА БОЛЕЙ!
НЕ ХАПАЛА ТОЛЬКІ ГАНЯЦЬ ІХ ПА НЕБЕ З ХУТКАСЦЮ МІЛЬЁН МІЛЯЎ У ГАДЗІНУ!
НАВАТ НЯ-ГЛЕДЗЯЧЫ НА ТОЕ, ШТО ІМ ГЭТА **ПАДА-БАЕЦЦА**!






ТЫМ ЧАСАМ...
ROADHOUS
Web 'n' Muff
MARKE
ХТО ЗНАЙШОЎ ЦЕЛА?


МІС МАФЕТ ЗНАЙШЛА ЯГО.
ЯНА ІШЛА АДЧЫНЯЦЬ КРАМУ, КАЛІ ЎБАЧЫЛА МІСТЭРА ВЭБА НЕДАЛЁКА АД ДЗВЯРЭЙ.
ПУСЦІЦЕ МЯНЕ! **ПУСЦІЦЕ МЯНЕ!** МНЕ ТРЭБА ЯМУ **ДАПА-МАГЧЫ!**
**ЦІШЭЙ-ЦІШЭЙ,** МІС ВЭБ. ВЫ ЎЖО НІЧОГА НЯ СМО-ЖАЦЕ ЗРАБІЦЬ.


ЁСЦЬ **ЗАКЛЮЧЭННЕ,** ДОКТАР?
ЁН ПАМЁР АД **УДУШ-ША**. АЛЕ ТРАХЕЯ Ў ЯГО НЕ ПАШКОДЖАНАЯ.
НЯМА НІ СЛЯДОЎ НА ШЫІ, НІ СЯНІКОЎ ВАКОЛ ІРТА І НОСА.


НІЧОГА НЕ ВЫЗНАЧАЕ ГВАЛТОЎНАЕ БЛАКІРАВАННЕ ДЫХАЛЬНЫХ ШЛЯХОЎ.
ДЫК ГЭТА ЗДАРЫЛАСЯ **НАТУРАЛЬНЫМ ШЛЯХАМ?** НЕ ЗАБОЙСТВА?
Я НІЧОГА НЕ ВЫКЛЮ-ЧАЮ, ПАКУЛЬ НЕ ПРА-ВЯДУ АНАТАМІРАВАННЕ.


ПРАЎДА Ў ТЫМ, ШТО Я НАВАТ **НЕ РАЗУМЕЮ**, ЯК ЁН ПАМЁР.




ДНІ ПРАХОДЗЯЦЬ, А ЗІМА РОБІЦЦА ЎСЁ ДЗІЎНЕЙ...
ЁСЦЬ НАВІНЫ ПРА МІСТЭРА ВЭБА?
SECURITY OFFICE


НІЧОГА НОВАГА. ПА СЛОВАХ ДОКТАРА СВІНОЕ СЭРЦА, АНАТАМІРАВАННЕ **НЕ ДАЛО ВЫНІКАЎ**, НА МОВЕ МЕДЫКАЎ: «МЫ НІЧОГА НЯ ВЕДАЕМ».
АЛЕ ЎСЁ Ж У МЯНЕ ЁСЦЬ ДЛЯ ЦЯБЕ ДОБРЫЯ НАВІНЫ.


ТАБЕ ЛЕПШ ПРЫСЕСЦІ, МУХАЛОЎ.
Я ДАСЛЕДАВАЎ ЗАПІСЫ БОЗЛІ, ГЭТЫ **МОНСТР** – ТВАЁ ДАСЬЕ.
Я ЗРАБІЎ ШМАТ ЗЛАЧЫНСТВАЎ.
FLY


**НЯЗНАЧНЫЯ** ПАРУШЭННІ, Я Б НАВАТ І **НЕ АКРЭСЛІЎ** ГЭТА ЗЛАЧЫНСТВАМІ.
І ВОСЬ АБ ЧЫМ Я ЖАДАЮ З ТАБОЙ ПАГУТАРЫЦЬ. БОЗЛІ ТРЫМАЎ ЦЯБЕ ДЛЯ ГРАМАДСКАЙ ПРАЦЫ **ШТОГОД** ЗА НАЙДРАБНЕЙШЫЯ ПРАВІННАСЦІ.


МАГУ СКАЗАЦЬ БЯССПРЭЧНА. ЁН ВЫКАРЫСТОЎВАЎ ТВАЕ ДЗІЎНЫЯ ПЕРАВАГІ Ў ЕЖЫ **Ў ЯКАСЦІ ПАДСТАВЫ** І ВЫКАРЫСТОЎВАННЯ ЦЯБЕ ЯК **ПРЫБІРАЛЬШЧЫКА** ЎСЁ ТВАЁ ЖЫЦЦЁ.
МЯРКУЮ, ШТО ГЭТА **ПОДЛА**.
АЛЕ...
FBI
FLY






З ГЭТАЙ ХВІЛІНЫ Я АБВЯШЧАЮ ЎСЕ ТВАЕ ДАЎГІ ПАГАШАНЫМІ. ТЫ НЯ ВІНЕН НАМ БОЛЬШ НІ ХВІЛІНЫ ПРАЦЫ.
ВІНШУЮ, МУХ. ЦЯПЕР ТЫ **ВОЛЬНЫ**.
АЛЕ...
FBI
FLY


НЕ ХВАЛЮЙСЯ, ДРУЖА. Я ГАТОВЫ ЗІРНУЦЬ З ІНШАГА БОКУ НА ТВАЕ ЎСЯЛЯКІЯ ПАРУШЭННІ Ў БУДУЧЫНІ.
НЕ ХВАЛЮЙСЯ, Я **НІКОЛІ** НЕ ЗАЦЯГНУ ЦЯБЕ НАЗАД.
АЛЕ...


І ТЫ НАРЭШЦЕ ЗМОЖАШ ПАКІНУЦЬ СВАЮ КАМОРКУ, У КУТКУ КАЦЕЛЬНІ. Я ЎЖО ЗАПІСАЎ ТВАЁ ІМЯ Ў СПІС ЧАКАННЯ НА КВАТЭРУ Ў ФЭЙБЛТАЎНЕ.
Я НЯ ВЕДАЮ, ЦІ ЗМОЖАМ МЫ ПАСЯЛІЦЬ ЦЯБЕ Ў ВУДЛЭНДЗЕ, АЛЕ З УПЭЎНЕНАСЦЮ МАГУ СКАЗАЦЬ, ШТО МЫ ЗМОЖАМ ЗНАЙСЦІ ТАБЕ МЕСЦА ДЗЕ-НЕБУДЗЬ НА ВУЛІЦЫ БУЛФІНЧ.


І Ў РЭШЦЕ РЭШТ, Я ШЭРЫФ, І КІМ Я БУДУ, КАЛІ НЕ ЗМАГУ ПАДШТУРХНУЦЬ НА НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ УПЕРАД ТАГО, ХТО СЛУЖЫЎ ГРАМАДСТВУ ТАК ДОБРА І ТАК ДОЎГА?
ТРОХІ ЗБІВАЕ З ПАНТАЛЫКУ, ТАК?
АЛЕ...


Я НЯ ВЕДАЮ, АДКУЛЬ У БОЗЛІ ТАК ШМАТ КАМПРАМАТА НА ЦЯБЕ, АЛЕ Я ТАК НЕ ПРАЦУЮ.
МЯРКУЮ, ТЫ ЗНОЙДЗЕШ МОЙ СТЫЛЬ КІРАВАННЯ ЗУСІМ ІНШЫМ... НЕ ТАКІМ **ПРЫГНЯТАЛЬНЫМ**, ЯК У МАЙГО ПАПЯРЭДНІКА.






ІДУ Ў ЗАКЛАД, ШТО ТЫ БУДЗЕШ ТОЛЬКІ РАДЫ ПАЗБАВІЦЦА АД СВАЙГО АРАНЖАВАГА **КАМБІНЕЗОНА**, А, ВЯЛІКІ ХЛОПЕЦ?
**ЗАЙДЗІ** ДА МЯНЕ ПРАЗ НЕКАЛЬКІ ДЗЁН, КАБ ПАВЕДАМІЦЬ, ЯК ТВАЕ **СПРАВЫ**.


ГЭТА НЕ ЗАГАД, А ЗАПРАШЭННЕ.
І ЯШЧЭ, СЯБРА, НЕ ПЕРА-СТАРАЙСЯ З ВЫПІЎКАЙ СЁН-НЯ ЎВЕЧАРЫ. Я Б НЕ ЖАДАЎ ПАЧАЦЬ ТВАЁ ВЫЗВАЛЕННЕ З АРЫШТА ЗА П'ЯНСТВА Ў ГРАМАДСКІХ МЕСЦАХ.
**ЖАРТУЮ**, МУХ. ТАБЕ СПАДАБАЕЦ-ЦА ТВАЁ ВЫЗВА-ЛЕННЕ.
...БЯЗДОМНЫ...


ЗДАРОЎ, МУХ. ЯК ЖЫЦЦЁ-БЫЦЦЁ?
...НЯ ВЕДАЮ, КУДЫ ІСЦІ...
СТОЛЬКІ ВОЛЬНАГА ЧАСУ, І НЯ МОЖАШ ВЫРАШЫЦЬ, ШТО З ІМ РАБІЦЬ? **ЗАЙЗ-ДРОШЧУ** ТАБЕ, ЧЭЛ.








МІС БЕЛА! МІС ЧЫРВАНЬ!
БЯЖЫМ ХУТЧЭЙ!


ШТО, КАБ ЦЯБЕ ЧОРТ УЗЯЎ, ЗДАРЫЛАСЯ?
**ЦІШЭЙ**! Я ТОЛЬКІ ДЗЯЦЕЙ ПАКЛАЛА СПАЦЬ!
ЧУЖЫНЦЫ!
ХТОСЬЦІ ПРЫЙШОЎ!
**УВАРВАННЕ!**


КЛАРА, ПАНАГЛЯДАЙ ЗА ДЗЕЦЬМІ!
**АБАРАНІ** ІХ!


ШТО **ЦЯПЕР**?
НЕ АДНА ПРАБЛЕМА, ДЫК ІНШАЯ!


ВІТАЮ, **КАЗАЧНЫЯ Ў ВЫГНАННІ**.



ЗАВІЦЕ МЯНЕ **МІСТЭР ПОЎНАЧ**.

Я **БАЦЬКА** БОЗЛІ ВАЎКА.

І Я Б ЖАДАЎ ПАБАЧЫЦЬ СВАІХ УНУКАЎ.



ДАЛЕЙ:
ВЯСНА МЕРЦВЯКОЎ